# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 10 (889) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 11 САКАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.

НА НІВЕ БГКТ




Сёння мы хочам прадставіць у кароткім рэпартажы жыццё, працу і людзей гуртка Беларускага таварыства, які з'яўляецца ў Міхалове моцным звяном і ўсё больш займае належнае сабе месца ў гэтым рухлівым і неспакойным мястэчку.

Міхалоўскі гурток БГКТ адзін з большых — налічвае 43 члены. Людзі гуртка — гэта працаўнікі мясцовай кравецкай майстэрні, дома культуры, ГС, рознага роду індывідуальныя майстры і гаспадары.

Плануецца ў Міхалове стварыць філіялы гуртка ў ПОМ-е і МБМ-е, дзе працуюць актыўныя групы членаў БГКТ, а задалёка ім хадзіць на агульныя сходы гуртка ў Міхалове.

У ПОМ-е вельмі актыўна працаваў пару год Юзэф Пашкевіч артыст-самадзейнік, дасканалы гумарыст. Гэта ён падрыхтаваў базу ў ПОМ-е для будучага філіялу беларускага гуртка. Цяпер Юзік Пашкевіч у арміі і адчуваецца крыху, што яго няма, як у гуртку БГКТ, так і ў драматычным беларускім гуртку, які вырас і сфарміраваўся па ініцыятыве і дапамозе гуртка БГКТ, а рэпетыцыі праводзіць у доме культуры.

Ёсць у міхалоўскім асяроддзі вялікія групы здольных і ахвотных да працы на культурнай ніве людзей. Аказалася, што Міхалова мае здольных дэкламатараў, майстроў жывога слова, здольных песняроў. Міхалоўскі гурток прымае ўдзел у кожным аглядзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прыходзяць у гурток усё новыя людзі.

На агляд драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам у 1973 годзе Міхалова падрыхтавала «Трыбунал» Андрэя Макаёнка. Прыпомнім, што гэтая п'еса ставіцца якраз беластоцкім драматычным тэатрам і карыстаецца вялікай папулярнасцю ў гледачоў. Аб міхалоўскай прэм'еры «Трыбунала» будзем пісаць і ацэньваць яе асобна, а тут скажам толькі, што факт пастаноўкі «Трыбунала» аматарскім гуртком — гэта вялікае здарэнне і для Міхалова і для дзейнасці БГКТ. П'есу рыхтавалі калектыўна: Валя Казімерчык, інструктар міхалоўскага ГОК-у, была рэжысёрам па мове і захавანні рэаліяў п'есы. Рышард Варабей вёў нагляд над правільнай пастаноўкай. А для агульнага рэжысёрскага нагляду Міхалова папрасіла спецыяліста па тэатру з Ваяводскага дома культуры ў Беластоку — Ізу Пултorак.

(Працяг на стар. 4)



*Валянціна Казімерчык — інструктар гміннага цэнтра культуры ў Міхалове. Гэта высокая і шчуплая дзяўчына з'яўляецца задушэўным і ўражлівым культурным дзеячом. Народжаная ў ваколіцах Міхалова, ведае тутэйшых людзей, шануе іх і цэніць іх таленты.*



*Сямейны здымак старшыні гуртка БГКТ у Міхалове — Антона Саковіча, побач жонка Анна і ўнучка Кася. Пра Антона Саковіча гаворыцца ў Міхалове «душа калектыву».*

БГКТ ХРОНІКА

■ На справаздачны сход гуртка БГКТ у Залуках (адбыўся 15.II.) былі запрошаны жыхары вёскі. Сабралася іх каля 90 чалавек. Старшыня гуртка Марыся Цыванюк прадставіла прысутным справаздачу аб дзейнасці гуртка ў 1972 годзе і план працы да канца бягучага года. Падчас дыскусіі інструктар ГП на Беластоцкі павет Геня Іванюк гаварыла аб заданнях БГКТ, а затым уручыла 33 асобам (якія раней падпісалі дэкларацыі) членскія легітымацыі. Выбраны быў новы скарбнік гуртка — Ірэна Грэсь. Марыся Цыванюк шмат папрацавала над тым, каб у дзень справаздачнага сходу адбыўся конкурс на найлепшых выканаўцаў песні. Былі падрыхтаваны сімвалічныя ўзнагароды. У гэтым конкурсе выступіла 14 чалавек. Першае месца заняла Антаніна Кміта, другое — Анна Філіпчук і трэцяе — Зіна Станкевіч.

■ 22 лютага адбылося пасяджэнне прэзідыума сакольскага аддзела БГКТ з удзелам старшыні ГП Мікалая Самоціка і старшыні галоўнай рэвізійнай камісіі Міхася Хмялеўскага. Супольна былі абмеркаваны задачы аддзела на бліжэйшы перыяд, у тым ліку распаўсюджванне выдавецтваў ГП і справы павелічэння падпіскі на «Ніву».

■ 23 лютага на нарадзе старшынь рэвізійных камісій праўленняў аддзелаў (шкада, што не ўсе старшыні прынялі ўдзел), былі намечаны заданні на бягучы год і абмеркавана роля гэтых камісій. Старшыня ГП Мікалай Самоцік прадставіў прысутным план працы БГКТ на першае паўгоддзе 1973 года.

■ 24 лютага гайнаўскі аддзел БГКТ, аддзел культуры ПРН супольна з уладамі гміны ў Чыжах арганізавалі ўрачысты вечар, прысвечаны 50-ай гадавіне СССР і 55-ай гадавіне Савецкай Арміі. З дакладамі выступілі дырэктар пачатковай школы ў Клейніках і сакратар прапаганды гміннага камітэта ПАРП у Чыжах Васіль Пучко, а таксама падпалкоўнік Ваяводскага штаба — Вацлаў Свяніцкі. Затым пад загалоўкам «Што ведаеш аб краіне Саветаў» адбыўся конкурс, у якім прыняло ўдзел 11 асоб пазашкольнай моладзі — пераможцы вясковых элімінацый гэтага конкурсу. У мастацкай частцы выступаў харавы калектыў з Клейнік, а школьнікі з Чыжоў выступілі з літаратурна-музычным мантажом. Пасля ўсяго гэтага быў паказаны кінапрасоўскі ГП фільм «Сыновья уходят в бой». На гэтай урачыстасці партыйныя павятовыя ўлады прадстаўляў кіраўнік цэнтра прапаганды — Эдвард Лясота, ГП БГКТ — яго старшыня Мікалай Самоцік, а гайнаўскі аддзел БГКТ — старшыня Аляксандр Іванюк.

■ 25 лютага ў памяшканні ГП адбыўся пяцігадзінны конкурс «Беларуская песня — 73». Справаздачу аб ім надрукуем у наступным нумары «Нівы».

(мх)




Два каменныя сфінксы бароняць уваход у сядзібу прэзідыума ПРН у Сямяцічах. Засталіся яны там у спадчыне пасля даўнейшай уласніцы горада Сямяцічы і шматлікіх іншых гарадоў і вёсак, пасля — княжны Анны Ябланоўскай, якая жыла ў гадах 1728—1800, а сваю галоўную сядзібу, свой палац мела якраз там, дзе некалькі год таму назад павятовыя ўлады пабудавалі сабе адміністрацыйны будынак. У час яго будовы было шмат клопатаў, кажуць, што нават адна сцяна завалілася. Тады ў Сямяцічах пачалі шаптаць, што гэта дух княжны не дапускае прадстаўнікоў дэмакратычнай улады на развалiны свайго палаца.

Цяжка гэтаму паверыць, бо гісторыкі даказваюць, што княжна, хаця багатая, як мала хто ў той час, адзначалася прагрэсіўным светапоглядам і дэмакратычнымі адносінамі да сваіх падуладных. Асабліва дбала яна аб тым, каб яе сяляне і эканомы прымянялі навейшыя ў тагачасных умовах метады вядзення гаспадаркі.

Гэта ўсё пра княжну Ябланоўскую ўспомнілася мне, калі я сядзеў у прасторнай канферэнцыйнай зале прэзідыума ПРН у Сямяцічах. Адбывалася якраз сесія рады. Ішла гутарка аб метадах і спосабах інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

Слухаючы аб ліках, планах і намаганнях мясцовых дзеячоў, глянуў я праз акно на гэтых аднолькавых сфінксаў. Раптам здалося мне, што адзін з іх як бы патрос сваёй грывай і адазваўся:

— Чувае, калега? Зноў пра сельскую гаспадарку.

— Надакучыла ўжо слухаць! — абурыўся другі сфінкс. — Пастаянна гэта інтэнсіфікацыя!

— Чакай, прымкніся! — разазлаваўся першы. — Чуеш? Цяпер штосьці пра бараноў.

— Ага, сапраўды.

За трыбунай стаяў прадстаўнік спулдзельні прадукцыйнай з Вулькі Нурэцкай і гаварыў аб баранах. У наваколлі Мельніка, гаварыў, знаходзяцца вялікія абшары дзяржаўнага фонду зямлі. (Гэта таксама колішняя ўласнасць княжны Ябланоўскай). Доўгі час павятовыя ўлады не ведалі, што ім рабіць з гэтым зямельным багаццем. Поле ляжала аблогам, парастала лесам і пустазеллем.

Спулдзельня прадукцыйная з Вулькі Нурэцкай, якая вось ужо 20 гадоў гаспадарыць на супольным, рашыла прыняць гэтую зямлю ў сваё ўладанне і абсталяваць у Мельніку буйную ферму па гадоўлі авечак. Зямлі там многа, аж 1250 гектараў, дык прастору і пашы хопіць больш чым для 3 500 авечак і бараноў. Спулдзельня спадзяецца высокага прыбытку, бо мода на баранія кажухі пакуль што не мінае, за вайну плоцаць многа, а і авечае мяса таксама штосьці вартае. Цікава толькі, ці ў Мельніку будуць даіць авечак і вырабляць гуральскую брынзу? Трэба было б тады групу спулдзельцаў з Вулькі паслаць на «ўчасы» ў горы, каб ад тамашніх бацаў навучыліся тэхніцы даення авечак, бо ў нас на Беласточчыне яшчэ дагэтуль лічаць авечку стварэннем безмалочным, якога даіць не варта, ды і сорамна.

— Чуеш? — адазваўся адзін са сфінксаў. — Цяпер яны пра сады.

— Для нас гэта не навіна. — пагардліва сказаў яго каменны калега. — Памятаеш, яшчэ наша пані вучыла садзіць яблыні і слівы.

— Ясна, — згадзіўся першы. — Але ты не балбачы, бо нічога не чую.

Пад яблынямі, грушамі, слівамі ды іншымі фруктовымі дрэвамі, як вынікала з дакладу старшыні, знаходзіцца ў Сямяціцкім павеце амаль 288 гектараў зямлі. Здавалася б, што многа, але гэтыя яблыні ды грушы раскінуты па

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

## АКТ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

1 сакавіка г.г. на авеню Клебер адбылося пленарнае пасяджэнне 12 дэлегацый краін — удзельніц міжнароднай канферэнцыі па В'етнаму. На пасяджэнні парафіраваны канчатковы дакумент — акт міжнароднай канферэнцыі па В'етнаму. Гэты дакумент пацвярджае асноўныя нацыянальныя правы в'етнамскага народа — незалежнасць, суверэнітэт, адзінства і нацыянальную цэласнасць В'етнама.

Такім чынам, дзейнасць канферэнцыі, накіраваная на тое, каб замацаваць у міжнародным плане вынікі парыжскага пагаднення аб спыненні вайны і ўстанаўленні міру ў В'етнаме, закончылася поспехам.

Акт канферэнцыі, які складаецца з дзевяці артыкулаў, парафіравалі ўсе народы. І гэтым канферэнцыя адрозніваецца ад жэнеўскай канферэнцыі па В'етнаму, дакумента якой не падпісаў урад Злучаных Штатаў.

Канферэнцыя прызнала асноўнае нацыянальнае права в'етнамскага народа, незалежнасць, суверэнітэт, адзінства і нацыянальную цэласнасць В'етнама. Гэтым актам міжнародная канферэнцыя прыняла таксама да ведама абавязацельствы чатырох краін, чые подпісы стаяць пад парыжскім пагадненнем.

## АБМЕН ПАРТЫЙНЫХ ДАКУМЕНТАЎ

1 сакавіка ў КПСС пачалося правядзенне абмену партыйных дакументаў. Па традыцыі, якая ўстанавілася, партбілет узору 1973 года за нумарам першым быў выпісаны ў Цэнтральным Камітэце КПСС на імя Уладзіміра Ільіча Леніна — заснавальніка і правадыра Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Падпісаў ленінскі партыйны білет Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў.

З гэтага часу члены КПСС будуць атрымліваць партыйныя білеты з сілуэтам Уладзіміра Ільіча і яго пранікнёнымі словамі: партыя — розум, гонар і сумленне нашай эпохі.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА

Прадстаўнікі савецкага Усесаюзнага аб'яднання «Тэхнапрамімпарт» і міланскага акцыянернага таварыства «Карле і Мантанары» падпісалі ў італьянскай сталіцы кантракт на пастаўку ў СССР буйнай партыі прамысловага абсталявання для прадпрыемстваў кандытарскай прамысловасці. Агульны кошт гэтага абсталявання ацэньваецца ў 4.600 тысяч рублёў.

## «ЧОРНЫ ВЕРАСЕНЬ»...

...гэта арганізацыя, якая аб'яднала пад сваім шыльдам невялікія экстрэмістычна настаўленыя групіроўкі палесцінцаў. У яе названні ёсць успамін аб крывавых сутычках паміж палесцінскімі атрадамі супраціўлення і іярданскай арміяй у верасні 1970 года.

У друку ніколі не выступалі даныя адносна колькасці, месцапрабывання ці кіраўніцтва гэтай арганізацыі, не публікавалася нідзе праграма яе дзейнасці. Аднак некаторыя факты гавораць аб сувязях «чорнага верасня» з некаторымі, экстрэмістычнымі непалесцінскімі кругамі. (ак)

## ПЛЕНУМ ЦК КП БЕЛАРУСІ...

...адбыўся ў Мінску 26 лютага гэтага года. Яго ўдзельнікі абмеркавалі выкананне рашэнняў XXIV з'езду КПСС і ўказанні снежаньскага (з 1972 г.) пленума ЦК КПСС па павышэнню эфектыўнасці прамысловай вытворчасці і задачах партыйных арганізацый БССР. Выступаючы са справаздачным дакладам, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ таварыш П. М. Машэраў адзначыў, што мінулыя два гады пяцігодкі былі для працоўных Беларусі, як і ўсяго Савецкага Саюза гадамі самаадданай працы па рэалізацыі велічнай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, выпрацаванай XXIV з'ездам КПСС. Для прыкладу, аб'ём нацыянальнага даходу БССР павялічыўся за гэты час аж на 19 працэнтаў.

## АБ С. ПРЫТЫЦКІМ

У сувязі з 60-ай гадавінай з дня нараджэння Сяргея Прытыцкага ў Гродзенскім абласным гісторыка-краязнаўчым музеі адкрылі экспазіцыю, якая расказвае аб жыцці і дзейнасці гэтага слаўнага сына беларускага народа. Шматлікія макеты, фатаграфіі і выразкі з газет паказваюць яго ў розныя перыяды жыцця і дзейнасці. Вялікі раздзел экспазіцыі займаюць матэрыялы аб дзейнасці Сяргея Прытыцкага на пасадзе Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

## ШТУЧНАЕ ВОЗЕРА

Меліяратары саўгаса «Дабрынь» Ельскага раёна здалі ў эксплуатацыю штучнае возера, плошча якога 122 гектары. Яно будзе служыць як водазбор для арашэння палёў і культурнай пашы. У возеры будуць вырошчваць штогод да трохсот цэнтнераў рыбы, а на яго берагах узнікне лодачная станцыя і база для адпачынку.

## ДЫНАСТЫЯ ЗЕМЛЯРОБАЎ

Продкі Станіслава і Алёны Шыдлоўскіх выводзіліся з земляробаў, яны самі таксама былі земляробамі і іх дзеці рашылі працаваць на зямлі. Сыны Рычард і Генадзь закончылі Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Рычард Шыдлоўскі ўзначальвае зараз саўгас «Гарадзішчанскі», а Генадзь Шыдлоўскі з'яўляецца старшынёй калгаса «Прагрэс». Трэці сын Шыдлоўскіх, Раман, скончыў Мінскі тэхналагічны інстытут і стаў інжынерам-механізатарам. Дачка Людміла пасля заканчэння інстытута народнай гаспадаркі працуе эканамістам у саўгасе «Варонча», Карэліцкага раёна.

## БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА Ў ЯПОНІІ

Ёко Накамура, віцэ-прэзідэнт Такійскай мастацкай Галерэі Гекасо, дзе прадаюцца творы савецкага жывапісу, нядаўна асабіста пабывала ў Мінску і выбрала каля 100 палотнаў беларускіх мастакоў. Сярод іх апынуліся працы народнага мастацтва БССР Я. Зайцава, заслужаных дзеячоў мастацтва БССР П. Масленікава, А. Шыбіна, Р. Кудрэвіча і іншых. Гэтыя карціны будуць паказаны ў Галерэі Гекасо і прапанаваны для пакупкі японскім любіцелям савецкага жывапісу. Ёко Накамура высока ацаніла мастацкую вартасць палотнаў беларускіх мастакоў. (вр)

## ЗАГІНУЎ ТАВ. В. АЦЕПКА — МІНІСТР УНУТРАНЫХ СПРАЎ

Сумным здарэннем мінулага тыдня, якое парушыла краіну, была трагічная смерць нашага міністра ўнутраных спраў тав. Веслава Ацепкі, які загінуў у авіяцыйнай катастрофе ля Шчэціна. З ім загінулі міністр унутраных спраў Чэхаславакіі і група працаўнікоў міністэрства УС Чэхаславакіі і Польшчы. Прэм'ер стварыў спецыяльную камісію, каб выясніла прычыны катастрофы. Пахаванне таварыша Ацепкі і яго таварышаў адбылося ў Варшаве на камунальных могілках на Павонзках. За труной загінуўшага міністра ішлі тав. тав. Э. Герэк, Г. Яблонскі, П. Ярашэвіч і шматлікія дэлегацыі.

Тав. Веслава Ацепку помніць актыў БГКТ. Працуючы яшчэ ў ЦК партыі, ён апекаваўся нашым таварыствам і прыязджаў у Беласток на з'езд БГКТ. Запомніўся нам, як сардэчны, з цёплымі адносінамі да іншых, чалавек.

## VIII ПЛЕНУМ ЦК ПАРТЫІ

Пад кіраўніцтвам I сакратара ЦК ПАРП тав. Э. Герка адбыўся VIII пленум ЦК. Яго тэма: эфектыўнае выкарыстанне сыравіны і матэрыялаў. Рэч ідзе пра тое, каб сыравінай і матэрыяламі гаспадарыць ашчадна і разумна. Не нішчыць іх, асабліва ў будаўніцтве шукаць такіх тэхналагічных вырашэнняў, якія б дазволілі зменшыць колькасць выкарыстоўваемых матэрыялаў. Дыскусія пра гаспадаранне матэрыялам у краіне не закончылася на VIII пленуме партыі. Пра гэта трэба дбаць пастаянна і ўсім у штодзённым жыцці. Калі будзем больш ашчадныя, больш пабудуем, будзем багацейшыя.

## ПРА ГС-Ы

«Спулдзельчасць заапатшэння і збыту» — гэта ўстанова, галоўным заданнем якой будзе дапамога вёсцы. У скарачэнні гаворым «вясковая спулдзельчасць». Адбыўся вось VI кангрэс гэтай спулдзельчасці. Ён накрэсліў праграму лепшай чым дагэтуль працы на карысць вёскі. Вясковая спулдзельчасць у сваёй службе гаспадарам не паспявае яшчэ за атульнымі, вельмі хуткімі, зменамі. А гаспадары змяняюцца — усё лепш і больш прадукуюць. Галоўная задача вясковай спулдзельчасці цяпер — гэта лепш і хутчэй абслугоўваць вёску, даставіць ёй хутчэй і багацейшы асартымент тавараў і машын. Спраўней таксама трэба купляць ад вёскі яе плёны.

## ЯК БУДЗЕМ ВУЧЫЦЦА?

Ад сакавіка пачалася ўсеагульная дыскусія над «Рапартам аб стане асветы», апрацаваным групай экспертаў пад кіраўніцтвам праф. Шчэпанскага. Асновай для дыскусіі з'яўляюцца пастановы VI з'езду партыі ў раздзеле аб выхаваўча-асветнай палітыцы, пастановы VII пленума ЦК ПАРП. Чакае нас вялікая рэформа асветы. Які вобраз нашай асветы рысуецца? 1) Увойдзе сярэдняя адукацыя для ўсіх, 2) усе настаўнікі будуць мець вышэйшую адукацыю, 3) будуць арганізаваны прафесіянальныя школы, у якіх будуць вучыцца высокакваліфікаваныя кадры, 4) будзе павышаны ўзровень навучання ва ўсіх школах. (вл)

## КАБ ЛЕПШ

1 сакавіка закончылася ў Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку двухдзённая курсаканферэнцыя, у якой прымалі ўдзел сакратары павятовых камітэтаў ПАРП, кіраўнікі і намеснікі кіраўнікоў аддзелаў ВК ПАРП, а таксама члены Прэзідыума ВРН. Галоўнай мэтай сустрэчы была дыскусія над магчымасцямі яшчэ большага паляпшэння партыйнай працы на Беласточчыне. Выступалі сакратары ВК ПАРП у Беластоку Здзіслаў Куроўскі, Уладзіслаў Юшкевіч, Стэфан Завадзінскі, Яўгеніюш Златажынскі, Міхал Недзведзь. «Партыя, — сказаў тав. З. Куроўскі, — павінна даваць прыклад і быць насіцелем высокай культуры і добрай арганізацыі працы».

## ГОСЦІ З «ЗЯМЛІ БЕЛАСТОЦКАЙ» НА БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

Упершыню, але бадай не апошні раз пабываў на Беласточчыне экіпаж карабля «Зямля беластоцкая». Як вядома, карабль быў пабудаваны ў Балгарыі, на суднаверфі імя Г. Дзімітрава ў Варне. Яго хроснай маці была пасол Беласточчыны ў Сейм Анна Келч. Ад 1 жніўня карабль рэгулярна курсуе ў Італію, Іспанію, Афрыку, Нарвегію і інш.

Госці сустрэліся з прадстаўнікамі ваяводскіх улад, пазнаёміліся з Беластокам, Белавежай і Гайнаўскім прадпрыемствам драўнінай прамысловасці.

Маракі паабяцалі, што будуць расслаўляць прыгажосць Беласточчыны ва ўсіх кутках зямнога шара. Капітан карабля быў запрошаны ў арганізацыйны камітэт стваруючагася беластоцкага заапарка.

## ПЕРАХОДНЫ СЦЯГ — У БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

26 лютага адбылася ў Беластоку нарада ваяводскага актыву ОРМО. У нарадзе прымалі ўдзел сакратар ВК Уладзіслаў Юшкевіч, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Ежы Зентара і ваяводскі камендант МО палкоўнік Бернард Нарэнгоўскі. У даны момант на Беласточчыне ёсць 11.600 армоўцаў, а ў іх ліку 447 жанчын. У мінулым годзе ўсе яны былі на службе 1.400 000 гадзін, затрымалі 378 злачынцаў, выкрылі 31 800 парушэнняў публічнага парадку.

У спаборніцтве павятовых арганізацый ОРМО першае месца занялі армоўцы з Бельскага павету. Яны атрымалі пераходны сцяг старшыні Прэзідыума ВРН.

## У ЛАПАХ — НОВАЯ БАЛЬНІЦА

У суботу, 3 сакавіка жыхары Лап атрымалі новую бальніцу. Адкрыццё бальніцы было вельмі ўрачыстае, пакольні лапская бальніца была прызнана «найлепш выкананым аб'ектам 1972 года». Прыбылі міністр здароўя і грамадскай апекі Марыян Слівінскі, I сакратар ВК ПАРП Здзіслаў Куроўскі, а таксама старшыня Прэзідыума ВРН Зыгмунт Спрыха. Сярод ганаровых гасцей былі таксама галоўная праектантка бальніцы архітэктар Галіна Баер-Сувальская і кіраўнік будовы Мікалай Радзішэўскі. (ач)




NIEDZIELA 11.III.

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 Gra Orkiestra TV Katowice. 10.55 „U źródeł polskiej sztuki współczesnej" („W kręgu mistrzów sztuki"). 11.25 PKF. 11.35 „W starym kinie" — Listy miłosne Kazimierza Junoszy-Stepowskiego do Mary. 12.35 Dziennik. 12.50 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej Legia (Warszawa) — Lech (Poznań) o Mistrzostwo I Ligi. 13.45. „Przemiany". 14.15 Dla dzieci: L. J. Kern — „Wąsata katastrofa" cz. VI („Karampuk"). 14.45 Losowanie numerów Totolotka. 15.00 „Pióropusz czy korona" — rep. film. z II Światowego Festiwalu Polonijnych Zespołów Artystycznych — Rzeszów 72. 15.40 „Sławne Polki" — teleturniej. 16.30 „Znakiem ich było Rodło" — film dok. 17.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 18.20 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wojna i pokój" — film fab. radz. cz. III — „Rok 1812". 21.25 „Gromnicki show". 22.00 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 12.III.

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa Roślin. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 TV Kurier Białostocki. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: L. Kruczkowski — „Pierwszy dzień wolności". 21.25 Publicystyka międzynarodowa. 21.55 „Karnawał". 22.30 Dziennik.

WTOREK 13.III.

10.00 „Wojna i pokój" — film fab. radz. cz. III — „Rok 1812". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 Śpiewa Nadia Urbankowa. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Morskie spotkania". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pan Dodek" — film fab. pol. 21.30 „Spotkanie z pisarzem — Piotrem Wojciechowskim". 22.00 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 23.05 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin.

ŚRODA 14.III.

8.30 „Pan Dodek" — film fab. pol. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciśnienie atmosferyczne. 10.55. Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie obywatelskie — „Budowle zabytkowe". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Złote wrota" — teatrzyk piosenki dziecięcej TV Słowackiej. 17.30 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.50 „Przez Afrykę" — film dok. czechosł. odc. III. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Starty" —publ. młodz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M. Żuławski — „Kluski z makiem" („Opowieści mojej żony"). 20.20 „Białe lilie" — film franc. („Szpieg cesarza") odc. V. 21.15 „Pryzmat" — program publ. 21.45 „Król się bawi" („Balet"). 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 15.III.

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Żółty skarb". 10.25 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Ten, który odważył się być mądrym". 10.55 „Białe lilie" — film franc. („Szpieg cesarza") odc. V. 12.45 Dla szkół: (kl. II—IV lic.) Język polski — „List". 14.00 Matematyka w szkole: „Rozszerzanie zakresu liczb". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 Śpiewa Maryla Rodowicz. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Poligon". 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nieśmiertelny" — film fab. USA. 21.15 „Refleksje". 21.45 „Kobieta rajska" („Wieczorowy Uniwersytet dla Starszych Panów"). 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 23.20 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt.

PIĄTEK 16.III.

8.40 „Nieśmiertelny" — film fab. USA. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Z syreną w herbie". 10.55 Dla szkół: (kl. VII-VIII) Wychowanie techniczne — „Dziewiarstwo ręczne". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Woda". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.10 „Turystyka i wypoczynek". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Perspektywy techniki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Canzonissima" — program rozr. wł. 20.45 Panorama Tygodnia. 21.25 Studio 63: Z. Herbert — „Drugi pokój". 22.00 Magazyn medyczny. 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

SOBOTA 17.III.

7.50 „Markiza Angelika" — film fab. franc. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Gady". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ nerwowy". 12.00 Sprawozdanie z Międzynarodowych zawodów narciarskich o Memoriał Bronisława Czecha i Heleny Marusarzówny. Otwarty konkurs skoków (Zakopane). 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Dwie orkiestry". 17.10 Dla dzieci: ((Zielona". 17.40 Leningradzki balet na lodzie. 18.40 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Alfabet rozrywki" — „S". 21.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.10 „Markiza Angelika" — film fab. franc.

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 9 marca**

8.45 Film fab. 10.50 Szkoła szachowa. 11.20 Filmy dokument. 14.15 Program dnia. 16.40 Film animowany dla dzieci. 17.10 Śpiewa A. Ogincew. 17.50 Film fab. I seria. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. II seria.

**Sobota, 10 marca**

7.00 Program dnia. 8.00 Film dokument. 9.00 Koncert. 10.15 Film fab. 11.00 Filmy animowane. 11.30 Przegląd międzynarodowy 11.45 Mozaika muzyczna. 13.45 Film fab. 17.00 Wieczór autorski Chrennikowa. Transmisja z Pałacu Zjazdów. 20.00 Transmisja z zawodów gimnastycznych. 20.45 Halowe lekkoatletyczne mistrzostwa Europy.

**Niedziela, 11 marca**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.30 Spektakl TV. 11.40 Tańczcie z nami. 12.05 Konkurs piosenkarski. 14.15 Spotkania literackie. 15.00 Klub filmowy. 16.10 Film animowany. 17.00 Film fab. 18.15 Zawody gimnastyczne. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.00 Halowe lekkoatletyczne mistrzostwa Europy.

# Як Кузьму крытыкавалі

Працуе цэх,
    шчыруе цэх,
Ідзе ўсё чынна-гладка.
Ды завялася, як на грэх,
Адна авечка ў статку...

Глядзіш, там — глум,
    а там — прастой,
Дзе трэба роўна — крыва...
Бо часта
    ад «авечкі» той
На працы несла... півам.

І вось з паветскай грознай
                    сход —
Кузьму даць прачуханца,
Ды так узяць у абарот,
Каб і забыў аб п'янцы,
Каб і другога засцярог...

Актыў з'явіўся дружна
І ўсе, хто не прыйсці не мог
Па абавязку службы.

Усе, усе, хто толькі меў
Грамадскія нагрузкі,
Хто чаркі з роду не цярпеў
Ні пры якіх закусках.

У клубе гул,
    у клубе шум,
Народу — не прабіцца...
— Дакуль рабіць ён будзе
                    глум?!
А нам — дакуль мірыцца?!

— Спрадвек:
    дзе п'янка — там
                    і брак,
Яны — як брат з сястрою!..
— Калі ўжо кіне, ён, лайдак,
Брацьц... гэта... «для настрою»?!

— Ён ганьбіў нас ужо не раз
І гонар наш рабочы!..
— Як можа ён сядзець між нас
І нам глядзець у вочы?!
— Запляміў дружную сям'ю —
Усіх, хто ў гэтай залі!..
— Я праваліўся б скрозь
                    зямлю,
Каб мне вось так казалі!..

Кузьму ўшчувалі сяк і так,
Стаміліся пясочыць.

— Хай слова скажа сам
                    лайдак,
Хай людзям гляне ў вочы!..

Гукалі-клікалі — няма!
І пачалі дзівіцца:
Няўжо ад сораму Кузьма
Мог, праўда, праваліцца?!

На жаль, —
    і сведкі ёсць таму, —
Не здарылася дзіва.
Калі «пясочылі» Кузьму,
Ён быў... ля бочкі з півам.

*Генадзь Кляўко*



ЧАМУ?

Настаўнік:
— Мірка, скажы хуценька, жывёла якога паходжання найстарэйшая?
— Каза... Казёл...
— Чаму?
— Яны ж барадатыя!

ШТО

Медыцынская сястра са здзіўленнем глядзіць на ўрача, які безупынку смяецца.
— Вы ведаеце, што зараз будзе?
— Што?
— Да мяне на прыём прыйдзе інспектар аўтаінспекцыі, які ўчора зрабіў мне пракол на талоне.

## МІНІБАЙКІ

А СУДДЗІ ХТО?

Пара хатніх жывёлін (не будзем называць па прозвішчу) падалі на развод.
Суддзі пытаюць:
— Прычына ёсць?
— Угу. Б'емося ілбамі.
— Сведкі ёсць?
— Ды не, мы між сабою, па-сямейнаму.
— Гэта суду недастаткова.
... З тых пор жывёліны (не будзем называць па прозвішчу) б'юцца толькі пры сведках.
Цяпер можна назваць прозвішчы: жывёліны аказаліся асламі.
А суддзі хто?

*М. Азаў, У. Ціхвінскі*

*У БАРАЦЬБЕ ЗА ЦІШЫНЮ.*

*Ці не занадта?*

КАЛІ НАМ ЗА ПЯЦЬДЗЕСЯТ

— Як здароўе?
— Ды так... Горш, чым было, але лепш, чым будзе.



ХТО ПРА ШТО

Сустрэліся дзве маладыя дзяўчыны і разгаварыліся:
— Ці ўжо маеш хлопца? — спытала першая.
— Не, дзяўчынку, — адказала другая.

УПЕРШЫНЮ

Пасля вяселля, адпраўляючы гасцей, маладая кажа:
— Добрыя людзі, мо што не так было на вяселлі, дык выбачайце. Я ж упершыню выходжу замуж. На другі раз лепш будзе...

У СУДЗЕ

— Вы ўдарылі мужа? — спытаў суддзя жонку.
— Не.
— Яна брэша! — крыкнуў муж.
— Змоўкні, бо дастанеш яшчэ, — не вытрымала жонка.

## Прыкладны пляменнік

Я атрымаў новую кватэру. Цёплым чэрвеньскім вечарам прыехаў да мяне з Нівак мой пляменнік Вячык, каб павіншаваць з наваселлем.

З такой нагоды мая жонка наладзіла пачастунак. Сядзім, вячэраем, размаўляем. Вячык вельмі цікавы хлопец: разумны, дасціпны, добра выхаваны. Ён ужо студэнт, але ўявіце сабе, без дазволу маткі нават у кіно не ходзіць. «Мама, можна?» «Мама, дазвольце?» — і не інакш. Не тое, што цяперашнія — не пытаючыся, куды хочуць, туды ідуць, што хочуць, то і робяць. За гэта я і люблю яго.

Дзесьці каля дзесятай гадзіны за акном бліснула маланка, загрымела, і вясновы дождж паліў, як з вядра.

— Будзеш, Вячык, у нас начаваць. Куды ж табе ў такую далячынь ды ў такі дождж ісці.

— Сардэчна дзякую, — кажа Вячык, — толькі дазвольце, я на хвіліначку выскачу.

Чакалі мы яго, чакалі ды і ляглі спаць. Недзе каля апоўначы зазваніў званок. Я падхапіўся з ложка і да дзвярэй.

— Хто там?

— Гэта я, — чую голас Вячыка.

Адчыняю дзверы, а ён стаіць мокры і вінавата ўсміхаецца.

— А дзе ж ты быў? — пытаюся.

— А я бегаў дадому і папрасіў маму, каб яна дазволіла ў вас пераначаваць.

*Ф. Макіўчук*

## Талаваломка

Сярод дванаццаці фігур знайдзіце дзве аднолькавыя.



* ❊ *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: адрэзкі 2, 3 і 5.*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі і Веры Манцюк з Мікуліч змяшчаем песню

## Nie jest źle jak na początek

Poszły w kąt cywilne łachy i miłostki,
wcielić cię zechcieli, bracie, do jednostki.
Z miejsca na zachętę dali nieco w kość,
chcesz więc wołać, że masz tego dość...
Przecież był w cywilu z ciebie kozak duży
i nie jednej belki możesz się dosłużyć.
Sam się zorientujesz już po paru dniach,
że za duże oczy ma twój strach.

Nie jest źle jak na początek,
nie trafiłeś wcale źle,
chociaż jeszcze nie w dziesiątkę,
gorzej można trafić też.
Nie jest źle, a będzie lepiej,
czemu by nie miało być?
Los nie lekko w plecy klepie,
ale śmiało można żyć.

Nieraz na ćwiczeniach wiatr ci dmuchnie w oczy,
słońce spali czoło, deszcz do cna przemoczy,
często na pogodę bierze cię już złość,
chcesz więc wołać, że masz tego dość...
Zwłaszcza na strzelnicy, gdy pod wiatr celujesz,
a cel w twoich oczach tańczy i wiruje,
zamiast w tarczę — trafisz często kulą w płot,
lecz nie zawsze, czasem w sosnę — ot!

Nie jest źle...

Twardy tydzień czujesz w kościach jak należy,
lecz w niedzielę wstajesz rześki, ach, i świeży,
patrzysz w okno, a tam pada jak na złość,
chcesz więc wołać, że masz tego dość...
A gdy się z dziewczyną spotkasz mimo wszystko
i odważnie spojrzysz już jej w oczy z bliska,
chociaż ona powie ci na pewno: nie! —
spojrzysz znowu i zobaczysz, że...

Nie jest źle...

ТОЛЬКІ ДЗЕСЯТУЮ...

Аднойчы багаты фінансіст праглынуў за абедам курыную костку, і яна засела ў яго ў горле. Задыхаючыся, ён прахрыпеў жонцы:

— Доктара!

Хутка прыехаў вядомы ўрач і выцягнуў костку.

— Дзякую, доктар — сказаў пацыент, — вы выратавалі мне жыццё і можаце прасіць любое ўзнагароджанне.

— Добра, — усміхнуўся ўрач, — дайце мне дзесятую частку таго, што вы хацелі мне прапанаваць, калі задыхаліся.

*ПЕРАД ХАКЕЙНЫМ ЧЭМПІЯНАТАМ СВЕТУ.*

*Новае ў тактыцы хакея.*



АРЛІНАЯ ПОШТА

З даўніх часоў жыхары горнай вёсачкі Ліуаха (Перу) карысталіся для сувязі з суседнімі вёскамі галубінай поштай. Нечакана летам мінулага года здарылася непапраўнае няшчасце. Арлы, спалоханыя магутнымі выбухамі ў гарах (дзе пракладвалася аўтамабільная дарога), пакінулі свае гнёзды і пасяліліся паблізу Ліуаха. Зусім зразумела, пёрыстыя гіганты для пачатку знішчылі ўсіх галубоў.

Калі на мясцовай пошце накапілася шмат пісьмаў, усхваляваныя сяляне звярнуліся да ўлад. Тыя адмовіліся зрабіць што-небудзь, бо арол у Перу — такая ж свяшчэнная істота, як, напрыклад, у Індыі карова. На шчасце, выпадкова ў вёсцы гасціў на канікулах Панча Рахелес, студэнт медыцынскага каледжа ў горадзе Ліме. З вялікай цяжкасцю малады псіхіятр злавіў 8 арлоў і... загіпнатызаваў іх. З таго часу вось ужо паўтара года Ліуаха карыстаецца паслугамі арлінай пошты. Цікава, што арлы лятаюць з пісьмамі не толькі днём, але і ноччу.

«ІНАНГІ» ВЫКОНВАЮЦЦА ШЭПТАМ

Бурундзі і Руанда — адзіныя ў свеце краіны, дзе спяваюць шэптам. Народныя балады «інангі», якія выконваюць шэптам пад акампанемент сітары, з'яўляюцца адным са старажытнейшых жанраў народнай музыкі. Некаторыя тлумачаць асаблівасці гэтага жанру тым, што гук сітары — народнага інструмента ў выглядзе авальнай выдаўбленай дошкі з 8—9 струнамі можа быць заглушан спеваком, калі той будзе спяваць у поўны голас.



*Калі вы выходзіце з сябе — ногі тут ні пры чым.*